# Голас Радзімы

№ 33 (2071)
18 жніўня 1988 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



Калі нехта пазайздросціць і скажа, што вельмі шмат ужо грошай зарабляе сям'я Ігната Рудака з калгаса «Перамога» Глыбоцкага раёна, то няхай таксама возьме на адкорм 225 бычкоў. І зразумее, які гэта вялікі клопат! Колькі розных пытанняў даводзіцца штодзённа вырашаць, немагчыма падлічыць. Але справы ў Рудакоў ідуць кармальна. Нават вельмі добра: па выніках працы лепшыя ў гаспадарцы. Сёлета яны маюць намер здаць дзяржаве 45 тон мяса!

НА ЗДЫМКУ: І. РУДАК з жонкай, зяцем і ўнукам.

(Пра новыя формы арганізацыі сельскагаспадарчай працы чытайце на стар. 2).

Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.

ВІЗІТЫ

## ГОСЦІ З ТАНЗАНІІ

У Мінску знаходзілася дэлегацыя работнікаў кантрольна-рэвізійнай і дысцыплінарнай камісіі Нацыянальнага выканкома Рэвалюцыйнай партыі Танзаніі на чале з начальнікам аддзела дакументацыі камісіі Элібарыкі Эліса Нгові.

Танзанійскія партыйныя работнікі былі прыняты ў ЦК Кампартыі Беларусі. З вялікай цікавасцю агледзелі экспазіцыю Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.

У праграме знаходжання дэлегацыі — наведанне калгаса «Новы быт» Мінскага раёна, Дома-музея I з'езда РСДРП, паездка на мемарыяльны комплекс «Хатынь».

ДЗЕНЬ ПАМЯЦІ

## МІТЫНГ У ХАТЫНІ

«Вынікам нашых сумесных намаганняў з'явіўся гістарычны выбух у Сарыазеку. З яго пачалося знішчэнне ракет сярэдняй і меншай дальнасці. Гэта толькі першы крок на шляху да раззбраення, да ліквідацыі ядзернай зброі,..» — заявілі ў сваёй рэзалюцыі ўдзельнікі антываеннага інтэрнацыянальнага мітынгу, прысвечанага Дню памяці ахвяр атамнай бамбардзіроўкі Хірасімы і Нагасакі. Ён праходзіў на свяшчэннай зямлі Хатыні 9 жніўня ў рамках Міжнароднага тыдня дзеянняў за ядзернае раззбраенне.

Старшыня Мінскага абласнога аддзялення Савецкага фонду міру пісьменнік Б. Сачанка, прадстаўнік пародненага з Мінскай вобласцю Плоцкага ваяводства ПНР Тадэвуш Шарвінскі, госць з Чэхаславакіі Францішак Бржэзіна гаварылі ў сваіх выступленнях аб галоўным клопаце чалавецтва — захаванні міру і самога жыцця на Зямлі, аб адказнасці за гэта ўсіх краін і народаў, кожнага чалавека. Якія б праблемы паміж краінамі ні існавалі, нішто не павінна раздзяліць іх перад усеагульнай небяспекай.

Мерапрыемствы Міжнароднага тыдня дзеянняў за ядзернае раззбраенне праходзілі ва ўсіх абласцях Беларусі.

НА СУСВЕТНЫМ УЗРОЎНІ

## НОВАЯ МАДЭЛЬ «ГАРЫЗОНТА»

Нядаўна тэхнічная камісія Міністэрства прамысловасці сродкаў сувязі СССР правяла атэстацыю новай прадукцыі вытворчага аб'яднання «Гарызонт» — тэлевізара 4-га пакалення.

Сусветнаму тэхнічнаму ўзроўню адпавядае — такое заключэнне камісіі і такая ацэнка вялікай працы распрацоўшчыкаў і стваральнікаў навінкі. Больш удасканалены кінескоп, магчымасць дыстанцыйнага кіравання, рэгуліроўкі насычанасці колеру і гуку, меншае спажыванне электраэнергіі, павышаная пажарабяспека — вось далёка не поўны пералік вартасцей гэтай мадэлі.

Створаныя часовыя творчыя калектывы ў канструктарскіх бюро разам з тэхнічнымі службамі аб'яднання паскораць работы над яшчэ больш канкурэнтаздольнымі мадэлямі тэлевізараў.

Сёлета і ў будучым годзе будуць створаны тэлевізары са стэрэагучаннем, больш ёмістай электроннай памяццю. Недалёкі той час, калі тэлегледачы стануць уладальнікамі тэлевізараў пятага пакалення.

БЕЛАРУСКАЯ МАРКА

## НА ЧАРЗЕ—СУПЕРАЎТАМАБІЛЬ

Больш за дзесяць зарубежных краін заключылі дагаворы на пакупку навінкі вытворчасці аб'яднання «БелаўтаМАЗ» — двухвосевага цягача МАЗ-54323. Па сваіх асноўных паказчыках ён адпавядае зарубежным аналагам, вызначаецца лёгкасцю ў кіраванні. За кошт прымянення новага трохкамернага глушыцеля і дадатковай ізаляцыі кабіны зніжаны ўзровень шуму працуючага рухавіка. На восем працэнтаў зменшаны расход паліва, а максімальная скорасць аўтамабіля дасягае 100 кіламетраў у гадзіну. Новы МАЗ прызначаны для міжнародных і міжгародніх перавозак, можа выкарыстоўвацца ў спалучэнні з паўпрычэпамі розных зарубежных фірм. Сёлета з заводскага канвеера сыдуць тысячы машын новай мадэлі. Зараз мінскія аўтамабілебудаўнікі завяршаюць падрыхтоўку да серыйнага выпуску суперsucceeded аўтамабіляў МАЗ-54326 і МАЗ-64226 з сілавым агрэгатам заходнегерманскай фірмы «Ман».

УЗАЕМНАЯ КАРЫСЦЬ

## «ГАРГАНЦЮА» ПРЫНОСІЦЬ ПРЫБЫТАК

У выгадны кантакт з ленінградскім кааператывам «Прагрэс» уступіў калгас «Рэвалюцыя» Быхаўскага раёна. У рэстаран «Гарганцюа», які працуе ў горадзе на Няве, гаспадарка пастаўляе малочных парасят вагой ад пяці да шасці кілаграмаў. Эканамісты падлічылі, што калгасная каса штогод будзе мець ад іх продажу больш як 2[illegible] тысяч рублёў чыстага прыбытку.

Калгас выкарыстаў права планавай рэалізацыі 30 працэнтаў мяса па сваяму меркаванню. У гаспадарцы цяпер створана невялікая ферма па вытворчасці свініны. Яе абслугоўвае сям'я жывёлаводаў, якая працуе на арэндным падрадзе. Гэта дазваляе атрымліваць прадукцыю нізкага сабекошту, што вельмі важна для камерцыйных сувязей.

ЭКСПРЭС-ІНТЭРВ'Ю

## У ЗАСЕКАХ ПАВІННА БЫЦЬ ГУСТА

**Пра новыя формы арганізацыі сельскагаспадарчай працы расказвае начальнік Упраўлення арганізацыі працы і заработнай платы Дзяржаграпрома БССР Мікалай СЯНЧУК.**

— СЁННЯ Ў НАС У КРАІНЕ, І Ў РЭСПУБЛІЦЫ ТАКСАМА, ШМАТ УВАГІ НАДАЕЦЦА ПАДРАДНАЙ ФОРМЕ АРГАНІЗАЦЫІ СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧАЙ ПРАЦЫ. ШТО Ж ТАКОЕ КАЛЕКТЫЎНЫ ПАДРАД, СЯМЕЙНЫ, ІНДЫВІДУАЛЬНЫ? КАМУ ГЭТА ВЫГАДНА?

— Пры адпаведным вядзенні справы выгада павінна быць усім. І дзяржаве, і ўсяму калектыву калгаса ці саўгаса, і асобнаму ўдзельніку падраднага калектыву. І нам, спажыўцам сельскагаспадарчай прадукцыі.

У чым жа сутнасць падраду? Гэта найбольш дасканалая форма ўнутрыгаспадарчых эканамічных адносін, калі ўсе зацікаўлены ў тым, каб вырабіць як мага болей таварнай прадукцыі.

Як вядома, асноўнымі вытворцамі сельгаспрадукцыі ў Савецкай краіне з'яўляюцца калектыўныя гаспадаркі — калгасы і саўгасы. Яны працуюць на зямлі, якую ім дзяржава прадастаўляе бясплатна. Аднак на працягу ўжо не аднаго года з-за недахопаў і пралікаў планавання і кіраўніцтва ў сельскай гаспадарцы жадаемых вынікаў мы не маем. Сярод іншых прычын справу значна тармазіў і такі парадак, калі аплачваўся ў асноўным аб'ём выкананых работ. Напрыклад, трактарысту плацілі за колькасць узараных гектараў, і яго заработак не залежаў ад таго, які ўраджай атрымаюць увосень з гэтага поля. Спрадвеку селянін працаваў і думаў пра ўраджай. І вось гэтая стагоддзямі адпрацаваная лагічная сувязь была амаль разбурана. Як яе аднавіць, як зацікавіць сельскага працаўніка ў канчатковым выніку яго намаганняў?

Падрад — калектыўны, сямейны, індывідуальны і найбольш складаны, новы для нас — арэндны — і павінны дапамагчы выправіць становішча.

Падрадны калектыў — гэта можа быць пэўная колькасць работнікаў, асобная сям'я або нават адзін чалавек — заключае з праўленнем калгаса або дырэкцыяй саўгаса дагавор. А ў ім абавязваецца вырабіць пэўную колькасць прадукцыі (хлеба, мяса, малака і г. д.), патрэбнай гаспадарцы, кіраўніцтва якой забяспечвае яго рэсурсамі. Пры гэтым заработак вызначаецца не аб'ёмам выкананай працы, як было раней, а непасрэдна ўраджаем, прывесамі, надоямі. Чым больш выраблена прадукцыі і чым вышэй яе якасць, тым больш выплачваецца і грошай.

Сёлета ў рэспубліцы на прынцыпах падраду працуюць больш за 90 працэнтаў работнікаў раслінаводства і жывёлагадоўлі і больш паловы абслугоўваючай вытворчасці калгасаў і саўгасаў — рамонтных майстэрань, аўтапаркаў і г. д.

Практыка паказала, што падрад дае добры эфект. Летась, напрыклад, у рэспубліцы ўраджайнасць збожжавых на падрадзе склала 34,3 цэнтнера з гектара, што на 22 працэнты вышэй, чым у непадрадных падраздзяленнях. А бульбы — 201 цэнтнер, гэта адпаведна на 20 працэнтаў вышэй. Але, безумоўна, эфектыўнасць падраду павінна і далей расці

Яшчэ трэба абавязкова адзначыць высокую ступень самастойнасці кожнага падраднага падраздзялення. Напрыклад, за сям'ёй замацоўваецца пашa, насенне, жывёла, тэхніка, угнаенні. А ўжо як больш эфектыўна іх выкарыстоўваць, трэба думаць самім работнікам.

— МАБЫЦЬ, НАЙБОЛЬШАЯ САМАСТОЙНАСЦЬ БУДЗЕ ПРЫ ШЫРОКІМ РАСПАЎСЮДЖАННІ АРЭНДНАГА ПАДРАДУ?

—Так, сёлета мы пачалі ажыццяўляць арэндны падрад. Пад арэндай разумеем маёмасны наём, дагавор, па якому адзін бок (арэндадацель) прадастаўляе другому боку (арандатару) маёмасць на працяглы час — да 25-30 год і нават болей за пэўную плату. Зараз арэндныя адносіны набылі ў нас наступныя дзве формы. Першая, калі работнікі арандуюць зямлю, сродкі вытворчасці і выконваюць заказ арэндадацеля (калгаса, саўгаса) на вытворчасць прадукцыі. Другая форма прадугледжвае права арандатараў самім вырашаць, што вырошчваць ці вырабляць і дзе потым рэалізоўваць атрыманую прадукцыю.

Калі параўноўваць, скажам, калектыўны і арэндны падрад, то апошні вымушае гаспадарыць больш ашчадна, бо зэканомленыя сродкі ідуць у прыбытак арандатарам.

— КОЛЬКІ БУДЗЕ ПЛАЦІЦЬ АРАНДАТАР ЗА ЗЯМЛЮ?

— У залежнасці ад яе якасці. Лепшыя ўгоддзі і каштаваць будуць даражэй. А ў цэлым, як дагаворацца з арэндадацелем. Каб усім было выгадна.

— ЦІ БУДЗЕ ЁН АТРЫМЛІВАЦЬ КРЭДЫТ?

— Калі ласка. У банку або нават і ў самім калгасе, саўгасе. Дарэчы, на вытворчасць планавай прадукцыі крэдыт будзе беспрацэнтны.

— ЦІ МОЖА РАЗАРЫЦЦА АРАНДАТАР?

— Калі будзе працаваць у сярэднім менш эфектыўна, чым калгас ці саўгас, то пэўныя непрыемнасці мець будзе. Але трэба ўлічваць, што калі арандатар бачыць, што справа ў яго не ідзе або нявыгадная для яго, ён можа скасаваць арэнднае пагадненне і зноў звычайна працаваць у калгасе.

— ЦІ ЁСЦЬ НЕШТА АГУЛЬНАЕ ПАМІЖ, СКАЖАМ, АМЕРЫКАНСКІМ ФЕРМЕРАМ І НАШЫМ БУДУЧЫМ АРАНДАТАРАМ?

— Пэўнае падабенства ёсць, але нельга забываць галоўнае: зямля ў нас належыць толькі дзяржаве.

ЖОДЗІНСКІЯ ХЛЕБАПЁКІ





**Свежай выпечкай забяспечвае не толькі гараджан, але і жыхароў Смалявіцкага раёна новы хлебазавод у Жодзіне магутнасцю 65 тон вырабаў у суткі. Акрамя чорнага хлеба, ён выпускае батоны, пірагі, кексы, торты, піроіжныя.**

**НА ЗДЫМКАХ: хлебазавод у Жодзіне; у хлебабулачным цэху. Аператар газавай печы Ірына АСТАШОНАК.**

КОНЕГАДОЎЛЯ

## ПЛЕМЯННАЯ ФЕРМА

Статус конезавода атрымала племянная ферма калгаса «Іскра» Лідскага раёна. Зараз яна пашыраецца. Увесь комплекс памяшканняў узводзіцца на тэрыторыі былых калгасных канюшняў. Будзе тут свой склад кармоў, кузня, піларама. Грошай новабудоўля каштуе немалых. Але гаспадарка ў накладзе не застанецца, бо пародзістая беларуская запражная каштуе звыш пяці тысяч рублёў. Пакупнікоў ужо зараз нямала ў калгасах, саўгасах і на прадпрыемствах Дзяржаграпрома БССР. Змогуць набыць коней за ўмераную плату і сяляне для ўласных гаспадарак.

Высока цэняць работу беларускіх каняводаў ва ўсёй краіне. Сведчанне таму — нядаўнія ўзнагароды ВДНГ СССР Мсціслаўскаму коннаму заводу і калгасу «Беларусь» Любанскага раёна.

РЭДКАЯ ПРАФЕСІЯ

## ГАЛОЎНАЕ — ПАНТЫ

Прафесія аленявода паявілася ў штатным раскладзе саўгаса «Днепрабугскі» Кобрынскага раёна. Тут на 60-гектарным масіве створана першая ў рэспубліцы аленевая ферма, дзе ўтрымліваецца каля 450 жывёлін.

Аленяводы Уладзімір Ракойд і Леанід Матузка добра ведаюць, як даглядаць такі статак. Сем гадоў Уладзімір займаўся гэтай справай у саўгасе «Навасёлкаўскі» Калінінградскай вобласці, адкуль і былі завезены ў Беларусь жывёліны. Прайшоў абучэнне ў калінінградцаў і Леанід.

Дырэктар саўгаса Антон Ткачук перакананы, што калі поўнасцю наладзіць тэхналогію ўтрымання аленяў, то будзе нядрэнны прыбытак. Панты — галоўнае, з-за чаго тут вырашылі развесці гэтых жывёлін. Яны служаць зыходнай сыравінай для вельмі каштоўнага і дэфіцытнага медыцынскага прэпарата — пантакрыну. Кілаграм гатовых пантаў каштуе 750 рублёў. У бліжэйшыя гады ў саўгасе плануецца давесці пагалоўе да дзвюх-трох тысяч. Аленевая ферма — значная падмога для эканомікі гаспадаркі ва ўмовах поўнага гаспадарчага разліку і самафінансавання. Частку жывёлін збіраюцца прадаваць лясніцтвам рэспублікі для далейшага размнажэння ў натуральных лясных угоддзях.

## НА СКРЫЖАВАННЯХ ЖЫЦЦЁВЫХ ДАРОГ



**Гэтае невялікае аўтабіяграфічнае апавяданне прынёс у рэдакцыю Уладзімір Міховіч. Зараз ён на заслужаным адпачынку, да гэтага працаваў інжынерам у адной з будаўнічых арганізацый Мінска. Нас зацікавіла яго апавяданне перш за ўсё таму, што лёс Уладзіміра Данілавіча ў многім падобны да лёсу соцень чытачоў нашай газеты, якія апынуліся на чужыне ў час вайны і цяпер жывуць у ФРГ, Бельгіі, Аўстрыі, Францыі і іншых краінах Еўропы. Падлеткам яго пагналі ў Германію. Было цяжкае жыццё ў лагеры, работа да знясілення на аднаўленні разбураных бамбёжкамі чыгунак. Потым уцёкі, пераход праз граніцу, удзел у французскім Супраціўленні, служба ў французскай арміі. Аб жыцці Уладзіміра Міховіча мы раскажам у адным з наступных нумароў. А пакуль прапануем вашай увазе гэтае апавяданне. Магчыма, каму-небудзь знаёмы месцы і падзеі, якія ў ім апісаны, і вы зможаце дапамагчы Уладзіміру Данілавічу ў яго пошуках.**

# ДЗЕ ТЫ, КАТРЫН?

Сонечны прамень заглянуў у акно і цёплай, пяшчотнай плямкай лёг на падлогу. Яшчэ гадзіны праз дзве, калі сонечны зайчык будзе ля ножкі стала, — яна прыйдзе. У яе прыходзе ўжо нейкая патрэба. З радасным нецярпеннем чакаю яго, як усе мы чакаем, калі ж у наш пакой загляне сонейка.

Пакой наш вялікі. Нас у ім шмат — чатырнаццаць чалавек, параненыя і пакалечаныя жорнамі вайны. Але не, ужо не чатырнаццаць. Бо ўчора Рамуальд яго пакінуў, пакінуў назаўсёды. Яго ложак, ужо засланы, чакае прыбыцця чарговага героя.

Рамуальд — француз польскага паходжання — быў паранены ў жывот дзесьці пад Дуэ. Тут на самай паўднёвай ускраіне французскай зямлі закончыў свой баявы і жыццёвы шлях. Яму было пад сорак, а мы, у большасці маладыя хлопцы, лічылі яго старым. У «старога» засталіся жонка і двое дзяцей, якіх яшчэ ўчора ён усё ўспамінаў. Відаць, адчуваў канец. Пад раніцу ён заціх, даўшы магчымасць заснуць перадранішнім сном усім астатнім.

У палаце з раніцы стаіць панурая цішыня, парушыць якую ніхто не хоча першым. Рамуальд, гэта ў памяць аб табе. Толькі такім чынам мы развітваемся з таварышам, які аддаў самае каштоўнае — жыццё дзеля свабоды і жыцця на зямлі.

Сумна, а ў гэтых жа сценах калісьці было вельмі весела і шумна.

Мы знаходзімся ў былой школе горада Манпелье, дзе зараз размясціўся ваенны шпіталь і куды нас санітарным поездам прывезлі з палявога шпіталя ў Дыжоне.

Палата наша інтэрнацыянальная. Побач са мной ляжыць алжырац, паранены ў галаву, ёсць адзін негр з Цэнтральнай Афрыкі, але большасць — французы, у асноўным былыя макіньеры. Я адзін савецкі з Беларусі, паранены ў нагу і пакуль не хаджу.

У палаце агульнае становішча вельмі дружалюбнае — адносіны самыя таварыскія.

Прайшло ўжо больш за сорак гадоў, але як сёння я ў думках уяўляю сабе наш пакой. Закрыўшы вочы, я бачу нават твары маіх баявых сяброў. Гэта забыць немагчыма.

Але пакуль я расказваў, сонечны зайчык амаль дапоўз да ножкі стала. Пачынаю з нецярпеннем чакаць. Прыслухоўваюся. Вось чутны крокі — ідзе. Але не, гэта толькі сястра — рабіць уколы. Дзесьці ўнутры з'яўляецца нейкі неспакой. Што ж гэта? Няўжо гэта тое, незнаёмае мне пачуццё, што завецца захапленнем, а затым і каханнем? Магчыма.

Хто яна? Адказаць мне цяжка. Практычна я ведаю пра яе вельмі мала. Мне вядома, што яна настаўніца, завуць Катрын, жыве ў Манпелье.

Катрын стройная, прыгожая, сярэдняга росту, бландзінка. Капа пышных валасоў упрыгожвае яе галаву. Яна адмысловы кулінар, пячэ вельмі смачныя булачкі з варэннем, якія я з вялікай, нясхаванай прагнасцю знішчаю.

Пазнаёміліся мы ў нашай палаце, куды яна прыйшла наведаць параненых салдат. У той час у насельніцтва было вельмі распаўсюджаным наведваць ваенныя шпіталі. Кожны француз лічыў сваім патрыятычным абавязкам пачаставаць чымсьці смачным раненага салдата. Вельмі добрая традыцыя.

...Яна ўвайшла ў нашу палату з плеценым кошыкам у руках крыху збянтэжаная. Ля праходу першы ложак быў мой. Кінуўшы хуткі позірк на яго ўладальніка, яна спытала:

— Месье, ву зет блесі?

Я адказаў, што паранены.

Відаць, па майму «парыжскаму» акцэнту яна зразумела, што мае справу не са сваім земляком.

Другім пытаннем было: адкуль вы?

Я растлумачыў, што служу ў арміі пасля макі, быў паранены, а мая радзіма — Беларусь.

— Дык вы сапраўдны рускі? — гучна і з якойсьці схаванай цікаўнасцю ўсклікнула яна.

— Так, мая радзіма далёка, — адказаў я. З гэтага дыялога пачалося наша знаёмства. Катрын прыходзіла штодзённа пасля сваіх лекцый, у адзін і той жа час. Гаварыла шмат, як усе француजанкі, і калі я чагосьці не разумеў, імкнулася перафразіраваць сказ так, каб усё станавілася зразумелым.

У сваю чаргу, і я навучыў яе, развітваючыся, гаварыць па-руску — да заўтра. Мне было вельмі прыемна, што на чужыне ёсць чалавек, які клапоціцца, памагае, непакоіцца.

Так прайшло два тыдні. Я рыхтаваўся ўжо стаць на ногі. За гэты час я вельмі прывык да яе наведванняў і не толькі з-за пачастункаў. Яна ўсяляла ў мяне ўпэўненасць у свае сілы, бадзёрасць, энергію, і за ўсё гэта я быў ёй бязмежна ўдзячны.

І цяпер, пасля многіх дзесяцігоддзяў, я адчуваю сябе перад ёю неаплатным даўжніком, бо аддзячыць яе тады я не мог і, відаць, не змагу да канца свайго жыцця.

Як зараз памятаю, была пятніца. Яна прыйшла, крыху расхваляваная і растлумачыла, што яе маці захварэла. Я зразумеў, што Катрын сёння павінна паехаць да яе, а ў панядзелак пасля работы, як заўсёды, зойдзе. На развітанне пажадала ўбачыць мяне ўжо ў вертыкальным становішчы. Нават пажартавала, сказаўшы: я ж не ведаю, магчыма ты меншы за мяне ростам.

Я адказаў, што мой рост да ранення быў 1,82 метра і наколькі бошы мяне ўкарацілі, я яшчэ і сам не ведаю. Так мы рассталіся да панядзелка. Але гэтаму панядзелку не суджана было настаць.

Усё было спакойна, як раптам у суботу прыбыла вялікая партыя новых раненых, у асноўным цяжкія. Медыкі пачалі нас «сартаваць». Цяжкіх пакінулі на месцы. Нашу палату лічылі лёгкімі — накіравалі поездам у Марсель, у шпіталь для тых, хто папраўляецца. Такім чынам, санітарны поезд вёз мяне з белакаменнага Манпелье, у якім я прабыў амаль месяц, але які я бачыў толькі з акон санітарнай аўтамашыны. І ў мяне няма адраса Катрын! Я нават не ведаю яе прозвішча. Дзе яе шукаць?

На ўсе гэтыя пытанні адказаць ніхто не мог, я гэта добра ведаў.

Поезд вёз мяне ўсё далей і далей. І толькі тады я зразумеў, якім дарагім стаў мне гэты чалавек. Бо жыццё магло скласціся зусім інакш, і Катрын магла стаць Каценькай, Кацюшай. Хто ведае? Як многа недаравальных памылак мы часта дапускаем па маладосці.

Далей — дарогі вайны, пасля Марселя і выздараўлення закінула мяне ў Парыж, а адтуль дадому ў родную Беларусь. Нас раздзяліла вялікая адлегласць і мноства граніц. Але, Катрын, ведай, што ў маёй памяці ты была ўсё жыццё. Цяпер, калі прайшло так шмат часу, я часта задаю пытанне: Катрын, дзе ты? Адгукніся! Я памятаю цябе, Катрын, дзякуй табе за ўсё. Вельмі хочацца, каб тваё жыццё склалася ўдала. Ты гэта заслужыла сваёй дабрынёй. Будзь шчаслівай, Катрын!

**Уладзімір МІХОВІЧ.**

## ДЗЕСЯЦЬ ДЗЁН У ІЗРАІЛІ

# ПЕРАДАЙЦЕ ПІСЬМО НА РАДЗІМУ

**По запрашэнню прагрэсіўных арганізацый гэту блізкаўсходнюю краіну наведала дэлегацыя савецкай грамадскасці. У яе саставе быў вядомы архітэктар з Мінска лаўрэат Ленінскай прэміі Леанід ЛЕВІН.**

Калі мы прыбылі ў аэрапорт, то адразу ж падвергліся атацы журналістаў. З таго моманту яны не абыходзілі нас сваёй учэпістай увагай. У Хайфе асабліва старалася дама па імені Ліза, якая прадстаўляла даволі вядомы «Голас Ізраіля». Па характару пытанняў, якія яна абрушыла на мяне, можна меркаваць, як рыхтуюцца палітычныя правакацыі.

Вось адно з іх: «Ізраільская грамадскасць вітае той факт, што ў саставе савецкай дэлегацыі ёсць сапраўдны яўрэй. Што вы адчулі, ступіўшы на зямлю радзімы?»

Я сказаў, што ў чалавека можа быць толькі адна радзіма, як і адна маці. Радзіма мая — гэта Беларусь, дзе я вырас, гэта краіна, якую ў гады вайны абараняў мой бацька.

Другое пытанне было такое: «Ці плакаў я, ступіўшы на зямлю, якая з'яўляецца адзінай радзімай яўрэяў»?

Усе слёзы ў мяне адпязайна, адказаў я ёй. Я быў зусім маленькім, калі не стала бацькі. У шэсць гадоў застаўся без маці. Так што не прывык плакаць.

Трэцяе пытанне біла ў тое ж месца: «Не хацелі б вы ашчаслівіць сваім талентам гэту зямлю?»

Тут мне ўжо давялося адказаць не зусім парламентарна...

Афіцыйная ізраільская прапаганда прасякнута такім антысаветызмам, такой злосцю супраць нашай краіны, якіх я не сустракаў нідзе за рубяжом. Я адчуў, як літаральна на кожным кроку ізраільскай моладзі прывіваецца культ перавагі над іншымі народамі.

Але ёсць у Ізраілі і іншыя сілы. Гэта перш за ўсё камуністы. Ва ўмовах раз'юшанай рэакцыі яны адкрыта вядуць барацьбу з экстрэмісцкім курсам урада, за вяртанне арабам акупіраваных зямель, за правы палесцінскага народа, за дружбу з СССР.

Ізраіль з поўначы на поўдзень можна праехаць за чатыры з палавінай гадзіны. Нам паказалі ўсю краіну. Мы сустракаліся з простымі людзьмі. Ніколі не забуду мітынг у лесе Чырвонай Арміі. Гэты лес быў пасаджаны ў Палесціне, калі яшчэ не было дзяржавы Ізраіль, у гонар перамогі савецкіх войск пад Сталінградам. Тут сабралася на мітынг, прысвечаны разгрому фашызму, звыш пяці тысяч чалавек.

Лес Чырвонай Арміі пад Тэль-Авівам — гэта нешта накшталт мінскага парку імя Чэлюскінцаў. Наш аўтобус крыху спазніўся, і як толькі мы паявіліся і пачалі праходзіць да эстрады, пачуліся воклічы:

— Рускія ідуць! Нашы!

Ніколі, ні ў адной краіне не зведваў пачуцця такой гордасці за тое, што я савецкі грамадзянін. Першыя чатыры-пяць радоў ля эстрады, з якой мы выступалі, займалі ветэраны вайны. У многіх на грудзях былі нашы баявыя медалі і, што мяне здзівіла, выразаныя з кардону савецкія ордэны Чырвонай Зоркі. Твары гэтых людзей трэба было бачыць — столькі пачуццяў адлюстроўвалі яны. Людзі шапталі словы нашых ваенных песень і не стрымлівалі слёз, калі спявалі саліст Вялікага тэатра СССР Уладзімір Мальчанка і выканаўца рускіх народных песень Кацярына Шаўрына. Многія, даведаўшыся, што тут прысутнічаюць савецкія людзі, прыйшлі з загадзя падрыхтаванымі пісьмамі ў адрас Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР. Мы ведалі, што ў гэтых лістах просьбы дазволіць вярнуцца на Радзіму. Многа людзей, ашуканых сіяністкай прапагандай, зрабілі ракавую памылку. Чаму яны хацелі гэтыя прашэнні перадаць праз нас? Пасылаць іх па пошце небяспечна: у краіне, якая вядзе вайну, лютуе цэнзура. Краіна мілітарызавана. Калі б аказалася такое пісьмо ў руках ізраільскіх улад, яго аўтар неадкладна страціў бы работу, трапіў у чорныя спісы. Як нам сказалі, прыкладна сорак працэнтаў эмігрантаў гатовы хоць цяпер вырвацца з таго «раю». Таму на кожным мітынгу, на кожнай сустрэчы да нас цягнуліся дзесяткі, сотні рук з канвертамі.

Пра адну з такіх сустрэч хачу расказаць асобна. Яна адбылася ў тым жа лесе Чырвонай Арміі. Падыходзіць да мяне чалавек, усміхаецца:

— Не пазнаеш? Мінск, Камароўка. Трынаццатая школа.

— Ці не табе на школьнай перамены з рагаткі трапілі ў вока?

— Мне.

Вось ужо ўдала сказана: нязведаныя шляхі божыя. Моцька Паляшчук, мой аднакласнік! Шаснаццаць гадоў жыве ў гэтай краіне. Урач.

Ён паклаў рукі мне на плечы. На вачах у яго былі слёзы...

Нас падвезлі да граніцы з Ліванам. Ліван і Ізраіль звязвала чыгунка. Яна праходзіла ў скале, праз тунель. Дык вось, ізраільцяне замуравалі выхад са свайго боку. Разбурана гара, разарвана артэрыя жыцця... Побач ідуць баі.

Ізраіль — гэта краіна, дзе ўсе ўзброены. Можна сустрэць рабіна, у адной руцэ якога талмуд, а ў другой — вінтоўка шаснаццатага калібру. Хлопец і дзяўчына сядзяць у кафэ, цалуюцца. А на спінках крэслаў вісяць аўтаматы.

Многае запомнілася мне ў гэтым кутку зямлі. І перш за ўсё лес Чырвонай Арміі, простыя людзі Ізраіля, якія не толькі мараць аб міры, а змагаюцца за яго і хочуць сябраваць з нашай краінай.

**Запісаў У. ЛОБАЎ.**

**Студент архитектурного факультета Белорусского политехнического института Андрей КОРЗИК стал победителем Всесоюзного конкурса, объявленного Грузинским политехническим институтом.**

ПО ПРОЕКТУ МИНСКОГО СТУДЕНТА

# ВПОЛНЕ ЗРЕЛЫЙ ВОЗРАСТ

...Вспомним зиму 1987 года. Трагичной и тревожной выдалась она для жителей Западной Грузии. Снежная стихия рвала нитки высоковольтных проводов, сметала жилища людей, животноводческие фермы. Не обошлось без человеческих жертв.

В 1987 году Грузинский политехнический институт имени В. И. Ленина объявил Всесоюзный конкурс среди студентов-архитекторов на проектирование жилых домов для семей, пострадавших от стихийного бедствия, и студент из Минска решил принять «вызов».

Объявление о конкурсе Андрей воспринял как возможность попробовать свои силы, и, конечно, сыграли определенную роль чисто человеческие факторы. Ведь интернациональный долг можно выполнить и таким вот образом. К тому же ему уже двадцать пять лет — вполне зрелый возраст. Так насколько же «созрел» профессионально? — вполне резонный вопрос стоял перед Андреем Корзиком, и он решил на него ответить.

Прежде всего Андрей взялся за специальную литературу по архитектуре Грузии, ее истории и географии. Изучил природно-климатические условия. Они во многом отличаются от наших: влажностью воздуха, обилием солнца, тепла, рельефом местности. Поэтому при проектировании домов все это должно было учитываться.

Условия конкурса оговаривали сокращенные сроки строительства, малоэтажность, размещение одной семьи. А. Корзик предложил несколько вариантов объемно-планировочных решений строительства домов: в зависимости от желания заказчика можно комбинировать квартиру из трех, четырех или пяти комнат. Учитывая экстремальную ситуацию, в которую попали люди, предусмотрел возможность строительства жилья в самые кратчайшие сроки — в течение месяца.

На первом этапе конкурса получил ответ из Тбилиси, что его предложения приняты, учтены возможность быстрой сборки, а также каркасная система, которая применяется при строительстве многоэтажных зданий. На втором этапе готовил рабочие чертежи и проектно-сметную документацию.

Большую помощь своему воспитаннику оказали, конечно, и преподаватели института. Проектированием руководили Н. Белоусов, В. Ангелов. Впрочем, «руководители» — сухое и казенное слово. Наставники помогли восполнить не только собственные пробелы Андрея, но и недостатки в системе подготовки современных архитекторов.

И вот недавно в Белорусский политехнический институт пришло письмо, подписанное ректором Грузинского политехнического института академиком АН ГССР Т. Лоладзе. Там, в частности, есть такое признание: «Мы с удовольствием отмечаем, что Корзик А. В. полностью выполнил поставленную задачу, вся проектно-сметная документация уже получена и передана в Госстрой ГССР, который включил проект белорусского студента в каталог индивидуальных жилых домов ГССР 1988 г.». И далее: «Мы приносим благодарность сотрудникам и студентам БПИ, внесшим фактический вклад в благородное дело ликвидации последствий стихийного бедствия в Западной Грузии».

Андрей Корзик сейчас принимает заслуженные поздравления. Они тем более приятны, что победа одержана в таком представительном конкурсе, где предлагалось пятьдесят проектов.

В заключение моей встречи с Андреем Корзиком я задал ему вопрос о призвании. Что побудило его стать архитектором: профессия родителей, счастливый случай?

— Мой отец — печатник типографии имени Ф. Скорины, мама — домохозяйка. Сестра — учительница физики. Так что, скорее всего, счастливый случай: с четвертого класса по восьмой занимался в изостудии при домоуправлении. А вот руководитель попался замечательный, В. Савченко — главный художник типографии, где работает отец. После восьмого класса учился в Минском архитектурно-строительном техникуме, потом отслужил в армии и поступил в политехнический институт.

**В. ШИМОЛИН.**

ОБЩЕСТВЕННАЯ АКЦИЯ, КОТОРОЙ УВЛЕЧЕНЫ ЮНЫЕ

# ДВИЖЕНИЕ «РОДНОЙ ГОРОД»

В одну из суббот на улицах Минска многие наблюдали не совсем обычную картину: там, где до этого тихо и незаметно вели свою работу археологи и реставраторы, теперь шумно и весело хлопотала молодежь. При этом парни и девушки приглашали прохожих: «Присоединяйтесь к нам, тут для всех дело найдется!»

Так начиналась новая молодежная акция, которую назвали «Родной город» и в которую теперь вовлечены сотни молодых жителей белорусской столицы. Цель ее — помочь специалистам поскорее восстановить древний центр Минска, так называемый Верхний город.

— Не скрою, всего несколько лет назад общественность почти не вмешивалась в дело сохранения памятников старины, — говорит первый секретарь Минского горкома комсомола Юрий Лавыш. — Нет, мы и тогда не были равнодушны, но о том, что какое-то здание будут восстанавливать или сносить, мы узнавали слишком поздно, оповещать об этом горожан было не принято. Отсюда, между прочим, и столько ошибок, невозвратимых потерь...

Начавшаяся перестройка, по словам Лавыша, не просто всколыхнула молодых минчан, но вселила уверенность в своих силах и возможностях. В школах, институтах, в учреждениях и на заводах начали создаваться различные молодежные группы и общества. Члены таких самодеятельных объединений не ограничиваются лишь обсуждением проблем, но стремятся разрешить их. И движение «Родной город» — убедительный пример тому.

Каждую субботу школьники, студенты, молодые рабочие и служащие собираются группами и расходятся-разъезжаются по Минску и его окрестностям. По 200—300 человек работают во время таких субботников — на раскопках городской ратуши (XVI век), реставрации дома известного белорусского художника Ваньковича, интересного архитектурного памятника Лошица. А на раскопках Замчища, где жили минчане в XII веке, уже побывало около 1 500 человек. Причем работали все безвозмездно.

— Нас очень вдохновляет Троицкое предместье, — говорит служащий Игорь Витковский. — Кажется, совсем недавно это был серый, в буквальном смысле этих слов, и неуютный район. А теперь словно кусочек истории появился в самом центре Минска: [illegible]жно восстановлены и со[illegible]усом оформлены жилые дома, магазинчики, кафе и кофейни... Возрождать Троицкое предместье специалистам тоже помогали минчане. Потому-то так быстро, думаю, и шли все работы. Убежден, кажд[illegible] нас должен хоть что-то сде[illegible] для родного города.

— Восстановление старого Минска — это не обычная работа, — считает библиотекарь Вероника Светлова. — Это возможность прикоснуться к прошлому своего города, узнать его историю не по учебнику. Ученые читают нам лекции, позволяют участвовать в обработке и классификации найденных при раскопках предметов...

Городские власти и специалисты, как и молодежь, настроены оптимистично. Им нравится и энтузиазм комсомольцев, и их серьезное отношение к делу. Да и денежные средства, которые перечисляют минчане в Фонд культуры, конечно, не лишние: не так уж много памятников сохранилось в Минске, некоторые приходится возрождать буквально с фундамента. И работа эта, естественно, требует солидных вложений.

— Возможно, кто-либо скажет, что в первую очередь нужно строить жилье, детские сады и школы — избытка их ведь тоже пока нет, — делится своими мыслями молодой преподаватель Юрий Гринкевич. — Но мы считаем, что сохранить доставшееся нам культурное наследие не менее важно.

Движение «Родной город» еще в самом начале. Но каждую субботу все больше и больше молодых людей выходят трудиться на улицы и площади Минска. И это дает основание экскурсоводам, показывающим гостям белорусскую столицу, делать такие смелые заявления: «Через три-четыре года вместо этого забора вы увидите памятник древнего зодчества... Здесь скоро вновь встанет здание церкви XVII века...»

— Да, так и будет, — убежден Юрий Лавыш — Мы в своих ребятах уверены: коль задумают какое-либо дело, непременно доведут до конца.

**Андрей САВИНЫХ.**



**Репутацию одного из интереснейших в городе завоевал новый молодежный центр «Ритм», созданный при Доме культуры производственного объединения «Минскстройматериалы». В программе его развлекательных вечеров — дискотеки, просмотр слайдфильмов и видеокассет, выступления самодеятельных артистов. В центре есть свой ансамбль эстрадного танца «Плюс—минус», работают клубы «Муравейник», «Граммофон», «Три цвета».**

**Здесь можно пообщаться с друзьями, обменяться новостями, хорошо отдохнуть.**

**[illegible] СНИМКАХ: новый молодежный центр «Ритм»; приятно провести вечер за чашкой кофе.**

Фото Ю. ПАВЛОВА.



МЕСТНАЯ ИНИЦИАТИВА

# В ДОМ КУЛЬТУРЫ — ДО И ПОСЛЕ ПОЛНОЧИ

Вечерние информационно - музыкальные программы совсем не монопольная привилегия телевидения — это доказали в Драгичинском районном Доме культуры. В субботний вечер «Молодежная панорама» закончилась далеко за полночь. Зрители еще до начала программы стали полноправными ее участниками — юношей и девушек встречали с видеокамерой и задавали неожиданные вопросы об их отношении к своей работе, спорту, танцам, моде, о том, что читают и какой музыке отдают предпочтение... Записанные на видеопленку экспресс-интервью стали затем заставками к отдельным тематическим разделам вечера. Серьезные дискуссии о выборе профессии, по насущному для Драгичина вопросу, каким быть городскому парку, о молодежи и литературе, деловая игра «Если б секретарем райкома комсомола был я...» чередовались с показом современных причесок и моделей одежды, предлагаемых комбинатом бытового обслуживания, короткими новостями на молодежные темы, музыкальными номерами самодеятельных артистов, видеоклипами и мультфильмами.

— Дебют оказался удачным, — считает ведущий «Молодежной панорамы» директор районного Дома культуры Виктор Дулевич. — Польза от вечера не только для молодежи — например, собранные предложения о городском парке будут направлены в городской Совет. Многие пожелали принять участие в работах по его упорядочению, по созданию спортивных клубов и площадок. Старшеклассники узнали, где могут летом приложить свои силы — и хозяйствам помочь, и заработать. В Драгичине хотят сделать такие программы традиционными, а заполненные участниками анкеты подскажут, какие вопросы будут обсуждены в следующий раз, с кем организовать встречу, что посмотреть.

